# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 5 (100) 20-28 лютага 2015 г.


## Палітвязьню Ігару Аліневічу не перадаюць лісты і газэты

**Валянціна Аліневіч сустрэлася з сынам у калёніі. «У суботу адбылося кароткатэрміновае спатканьне, – паведаміла маці палітвязьня. – Усё, як звычайна. Выехалі зь Менску ўранку, ня ведаючы, дадуць нам з мужам убачыць яго ці не. На гэты раз спатканьне адбылося, але права на перадачу, якая належыць адзін раз у чатыры месяцы, ён пазбаўлены».**

«Наяўнасьць шкла і размова праз тэлефонную слухаўку не спрыялі даверлівасьці гутаркі. Але бачыць і чуць блізкага чалавека, нават ня маючы магчымасьці абняць яго — гэта заўсёды вялікая радасьць. Шмат пытаньняў аб тым, што дзеецца ў сьвеце. Ва ўсім адчуваецца самы сапраўдны інфармацыйны голад. Газэты «Новы Час» і «Свабодныя Навіны» яму не аддаюць, хоць рэдакцыя пастаянна высылала і высылае яму кожны нумар. Большая частка лістоў зь невядомых прычын таксама не даходзіць да Ігара. Асабліва гэта тычыцца ягоных расейскіх сяброў. Тыя лісты, у якіх я пішу аб расейскіх і ўкраінскіх падзеях, таксама не даходзяць. І што ўжо зусім незразумела для мяне — не прапусьцілі камэнтары да Крымінальнага Кодэксу. Хоць у Наваполацкай калёніі ўсю законатворчую літаратуру прапускалі бесьперашкодна», — распавяла Валянціна Аліневіч.



Ігар Аліневіч

Паводле слоў маці палітвязьня, цяпер Ігара Аліневіча перавялі ў новы, 7-ы атрад: «Часу пасьля працы застаецца вельмі мала, але імкнецца пабольш чытаць, вывучаць эканоміку, — кажа яна. — Вялікае ўражаньне на яго зрабіў лёс рускага эканаміста Мікалая Кандрацьева, стваральніка тэорыі «доўгіх хваляў», загінулага ў 1937 годзе. Спрабуе экстрапаляваць гэтую тэорыю на нашу рэчаіснасьць. Кажа, што па ягоных разьліках мы толькі ў пачатку эканамічнага крызысу, а не на ягоным дне. На жаль, падручнік па эканоміцы, які быў на ангельскай мове, яму таксама не аддалі. На мае пытаньні пра здароўе, адказаў, што ўсё ў парадку, хоць чорныя кругі пад вачыма сьведчаць пра іншае. Турбуецца пра іншых палітычных і проста зьняволеных. Знэрвавала вестка пра тое, што Мікалаю Дзядку прызначаны суд. Не падзяляе катэгарычна пункт гледжаньня «Пляцформы» аб тым, што ў турэмнай сыстэме Беларусі намеціліся пазытыўныя тэндэнцыі. Ня бачыць ніякіх падставаў для такіх сьцьвярджэньняў. У гэтых варунках цалкам падзяляе пункт гледжаньня Алеся Бяляцкага.

Калі мы прыехалі, на горцы, насупраць калёніі, стаяла чыясьці мама, якая з самай раніцы чакала свайго сына. Яго павінны былі выпусьціць на волю ў гэты дзень. Я спадзяюся, што яны нарэшце сустрэліся».

**Актывіст анархісцкага руху Ігар Аліневіч асуджаны на 8 гадоў зьняволеньня, нібыта, «за хуліганскія дзеяньні што да афіцыйных будынкаў». Сваёй віны палітвязень не прызнаў. Раней ён адбываў пакараньне ў калёніі ў Наваполацку, якая ўважалася за самую дрэнную з экалёгіі. У пачатку году было пастаноўлена аб яе расфармаваньні. У сярэдзіне ліпеня стала вядома, што Ігар Аліневіч этапаваны ў калёнію «Віцьба». А ўжо празь невялікі час на палітвязьня пачаўся моцны ціск і ён правёў цэлы месяц у ШІЗА.**

Ігар Аліневіч прызнаны палітвязьнем міжнароднай і беларускай праваабарончай супольнасьцю.

## Работнікі ААТ «КІМ» паскардзіліся ў пракуратуру на затрымку заробкаў

*Эканамічны суд прызначыў на збанкрутавалае Віцебскае ААТ «КІМ» часовага ўпраўляючага, а каля 30 работнікаў вязальнага цэху падалі калектыўную скаргу ў пракуратуру. Кімаўцы скардзяцца ў гарадзкую пракуратуру на тое, што ім яшчэ ня выплачаная заработная плата за лістапад і сьнежань 2014 году.*

Паводле слоў работнікаў «КІМ», кіраўніцтва ахапіла паніка. Яны непакояцца, што кіраўнікі цяпер больш дбаюць пра ўдалае звальненьне са збанкрутавалага прадпрыемства, чымся пра свае службовыя абавязкі.

*На ААТ «КІМ» паводле стану на 2013 год працавала 904 чалавекі, пры гэтым 9% ад усіх супрацоўнікаў складаў апарат кіраваньня. Зарплата кіраўніка прадпрыемства паводле дадзеных КДК у гэты час складала ад 12 да 18,5 мільёнаў рублёў, пры сярэдняй па прадпрыемстве ў 2,99 мільёну рублёў.*

# *Былы палітвязень Павал Севярынец прэзэнтаваў у Віцебску кнігу «Беларуская глыбіня»*




**Віцебск стаў 45-м горадам краіны, у якім былы палітвязень, сустаршыня аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» (БХД) прэзэнтаваў сваю новую кнігу «Беларуская глыбіня». Сустрэча з прыхільнікамі ягонай творчай і палітычнай дзейнасьці адбылася 21 лютага, у памяшканьні «Эўрапейскага клюбу».**

Зборнік складаецца з 84-х эсэ, напісаных з 2011 па 2013 гады, падчас адбыцьця «хіміі» за Плошчу — 2010 у вёсцы Куплін Пружанскага раёну Берасьцейскай вобласьці.

Для Паўла гэтая кніга пачалася ў залі суду, суду — паводле ягонага азначэньня — няправеднага. Таму для сябе ён узяў за прыклад Госпада, які таксама стаяў перад няправедным судом і маўчаў — ніякіх паказаньняў ані падчас сьледзтва, ані падчас суду Павал не даваў. І наогул, да ўсяго, што адбывалася зь ім, Павал, зьяўляючыся праваслаўным вернікам, ад пачатку ставіўся, як да промыслу Божага.

Павал Севярынец прыгадаў выпадак, калі на судзе яшчэ да вынясеньня выраку па галівудзкай усьмешцы пракурора, што была рэакцыяй на зачытаны ліст ад Згуртаваньня беларусаў сьвету, дасланы ў ягоную абарону, здагадаўся: гэтым разам пашлюць «і падалей, і паглыбей». Але ж ніякіх нараканьняў на лёс: «Слава Богу за Куплін».

**І калі плёнам першай адседкі ў Малым Сітне сталі «Лісты зь лесу», то пасьля Купліна выйшла з друку «Беларуская глыбіня», да напісаньня якой заахвочваў і рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько, што прыяжджаў да палітвязьня Севярынца ў Куплінскую камэндатуру.**

Пасьля прэзэнтацыі Павал Севярынец адказаў на шэраг пытаньняў, зададзеных прысутнымі, а напрыканцы кожны ахвотны змог атрымаць кнігу з уласнаручным пісьмовым пажаданьнем аўтара.

# Віцебскі праваабаронца — за адмену адміністрацыйнага арышту для некаторых катэгорыяў хворых


Леанід Сьвецік

У Кодэксе аб адміністрацыйных правапарушэньнях Рэспублікі Беларусь адсутнічае дакладны пералік захворваньняў, пры якіх грамадзяніна нельга зьмяшчаць пад арышт у ізалятар часовага ўтрыманьня пры зьдзяйсьненьні ім адміністрацыйнага правапарушэньня. Між тым, такія нормы ўтрымліваюцца ў заканадаўствах шмат якіх краін, у тым ліку Расеі і Украіны.

**Віцебскі праваабаронца Леанід Сьвецік зьвярнуўся з прапановаю ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ініцыяваць адпаведныя зьмены ў заканадаўства і зацьвердзіць пералік такіх захворваньняў. Аднак атрымаў адмову: у парлямэнце палічылі гэта немэтазгодным.**

На думку праваабаронцы, існуе шэраг псыхічных разладзьдзяў, дэпрэсіяў, а таксама іншых захворваньняў, якія абвастраюцца ў замкнёнай прасторы, якую ўяўляе сабой камэра ІЧУ. Таму было б слушна і гуманна пры зьдзяйсьненьні грамадзянінам правапарушэньняў і вынясеньні пакараньняў улічваць стан псыхічнага здароўя і не выносіць пастановы аб адміністрацыйным арышчэ.

**Цяпер Леанід Сьвецік рыхтуе адпаведны зварот у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

# Папраўчая калёнія № 3 (Віцьба) – два погляды

*Аптымістычны погляд...*

Папраўчая калёнія № 3 знаходзіцца ў 3 кілямэтрах ад Віцебску. Яна была пабудаваная як ЛПП ў 1985 годзе, пасьля знакамітага гарбачоўскага ўказу аб барацьбе з п'янствам, і праіснавала ў такім фармаце да 1992-га. Тады, у пэрыяд ўсплёску злачыннасьці, ЛПП пераўтварылі ў ВПК-3 — выхаваўча-працоўную калёнію для непаўналетніх. У лютым 2005 году яна стала калёніяй агульнага рэжыму для дарослых. Прычына — новая палітыка дзяржавы, накіраваная на павелічэньне колькасьці пакараньняў, асабліва для падлеткаў, не зьвязаных з пазбаўленьнем волі за злачынствы, якія не прадстаўляюць вялікай грамадзкай небясьпекі. У той час у калёніі, разьлічанай на 700 чалавек, зьмяшчалася крыху больш за сотню падлеткаў.

У калёнію № 3 цяпер трапляюць асобы, прысуджаныя да пазбаўленьня волі ўпершыню. Такіх калёніяў у Беларусі пяць: у Віцьбе, Магілёве, Шклове, Бабруйску і Менску. Дарэчы, бытавыя ўмовы, першапачаткова разьлічаныя на непаўналетніх, вылучаюць гэтую калёнію сярод іншых у лепшы бок.

**Рамантычна апісваных ў кіно і кніжках злачынных аўтарытэтаў, якія маюць рэальную ўладу над асуджанымі, тут няма. Практычна ўсе зьняволеныя, патрапіўшы за краты, падпісваюць пісьмовае забавязаньне выконваць усе законныя патрабаваньні адміністрацыі. Бяз гэтага ў адпаведнасьці з заканадаўствам асуджаны не падлягае датэрміноваму вызваленьню або замене пакараньня на больш мяккае, не зьвязанае з пазбаўленьнем волі, якое можа скараціць знаходжаньне асуджанага ў калёніі на 1/2 тэрміну ад прысуду.**

Парадак спатканьняў, атрыманьня перадач, магчымасьць траціць у краме калёніі свае сродкі вызначае Крымінальна-выканаўчы кодэкс і часткова адміністрацыя калёніі. Паводле закону дазволена атрымліваць на год 4 пасылкі або перадачы па 30 кіляграмаў, мець 3 працяглыя (да трох сутак) і 3 кароткія спатканьні з роднымі. Для працяглых спатканьняў на тэрыторыі калёніі маецца сьціплая гасьцініца з асобнымі нумарамі і дэмакратычным коштам на іх. Можна перадаваць спартыўныя касьцюмы, ніжнюю бялізну, цёплыя шкарпэткі.



Лякальны сэктар атраду

Адміністрацыя калёніі (часьцей за ўсё па просьбе санстанцыі) пэрыядычна робіць больш жорсткім пералік дазволеных да перадачы прадуктаў. Так, у цяперашні час забаронена перадаваць у пазьбяганьне атручваньня хатнія саленьні і прадукты, якія патрабуюць цеплавой апрацоўкі. Вермішэль кшталту "Ролтан" і хуткараспушчальныя супы — можна. Двойчы ў месяц зьняволены мае права купляць па безнаяўным разьліку прадукты ў краме калёніі. Асартымэнт нагадвае сельмаг, толькі што сьпіртнога ў продажу няма. Грошы зьняволеныя зарабляюць самі, а шмат каму яшчэ і дасылаюць сваякі. У сярэднім за месяц пасьля ўсіх вылікаў па пазовах, за харчаваньне і камунальныя выдаткі ў зьняволенага застаюцца ня надта вялікія сумы.



Можна перадаць тэлевізар, калі такога няма ў атрадзе (у цяперашні час ва ўсіх атрадах ПК-3 тэлевізары ёсьць), лядоўню і іншую бытавую тэхніку — па ўзгадненьні з адміністрацыяй калёніі, а таксама неабходныя лекі і вітаміны — з дазволу мэдработнікаў.

Штотыдзень — душ і зьмена бялізны. Маюцца невялікія душавыя і ў атрадах. У калёніі ёсьць клюб, дзе раз на тыдзень паказваюць фільмы з гарадзкога кінапракату і пэрыядычна выступаюць артысты. Асабліва часта тут яны бываюць падчас правядзеньня ў Віцебску фэстывалю "Славянскі базар". За выступ у калёніі артысты ганарары не атрымліваюць.

**Калёнія чымсьці нагадвае вайсковую частку. У ПК-3 – 9 атрадаў. У кожным прыкладна па 65-70 чалавек. Зьняволеныя пражываюць у двухпавярховых карпусах. Каля кожнага зь іх маецца абгароджаны плотам дворык – лякальны сэктар. У дворык зьняволены мае права выходзіць у любы час. За яго межы – на працу, у клюб, у сталоўку – толькі з дазволу адміністрацыі. У лякальным сэктары дазволенае знаходжаньне ў спартыўнай вопратцы. За яго межамі – толькі ў робе. У кожнага зьняволенага на робе – бірка зь яго прозьвішчам і нумарам брыгады.**

Жылыя памяшканьні зь лякальнымі сэктарамі, сталоўка, мэдчастка, лазьнева-пральны комплекс і іншыя пабудовы разьмешчаныя па краёх калёніі. Цэнтар яе займаюць футбольнае поле, валейбольная і баскетбольная пляцоўкі, а таксама драўляная праваслаўная царква, пабудаваная ў 1998 годзе і асьвечаная расейскім Патрыярхам Алексіем Другім. Службы ў ёй адпраўляе сьвятар з найбліжэйшага пасёлку. Усе дарожкі чыста вымеценыя, уздоўж іх — дрэвы і газоны.

*працяг на наступнай старонцы*

# Папраўчая калёнія № 3 (Віцьба) – два погляды

*Працяг. Пачатак на старонцы 3*

Карантын — ізаляванае памяшканьне, дзе створаныя ўмовы, каб максымальна выключыць кантакт новапрыбыўшага зьняволенага з астатнімі насельнікамі



Памяшканьне карантыну

калёніі. Сюды па прыезьдзе ў калёнію трапляюць усе асуджаныя. У карантыне яны знаходзяцца два тыдні: праходзяць мэдычнае абсьледаваньне, адміністрацыя вывучае іх асабістыя справы і саміх зьняволеных. Па выніках вырашае, куды накіраваць працаваць. Асноўная вытворчасьць калёніі — швейная (працоўная вопратка) і дрэваапрацоўка (аконныя рамы). Цяпер вялікая частка прадукцыі ідзе на патрэбы калёніі. Працуюць 100% асуджаных.

Зьняволеныя сьпяць у пакоях ("кубрыку") з двух'яруснымі ложкамі. У кожным кубрыку прыкладна 20 спальных месцаў. У асобным пакоі ў кожным атрадзе стаіць тэлевізар. Ёсьць таксама бытавы пакой. Тэлевізар дазваляецца глядзець у вольны ад працы час да адбою. Прымаюцца тыя самыя праграмы, што і ў Віцебску.

У мэдчастцы лякуюць большасьць магчымых захворваньняў. Маецца нават ўстаноўка для рэнтгену зубоў. Толькі на складаныя апэрацыі зьняволеных вывозяць у турэмны шпіталь у Менск.

Харчуюцца зьняволеныя ў сталоўцы, традыцыйна з алюмініевых місак. Асноўная ежа — капуста і кашы.

Кожны зьняволены мае права на ўмоўна-датэрміновае вызваленьне, калі адбудзе пэўную частку пакараньня. Але менавіта — мае права, а не мусіць быць вызвалены. Для таго, каб прайсьці працэдуры для прадстаўленьня да датэрміновага вызваленьня, вязьню неабходна мінімум паўгода правесьці ў калёніі, каб адміністрацыя мела час пераканацца, што ён сапраўды выправіўся.

### *Пэсымістычны погляд...*

ПК-3 знаходзіцца ў некалькіх кілямэтрах ад Віцебску. Зона не вялікая — каля 1 тысячы чалавек. Зона лічыцца чырвонай, г.зн. кіруюць не блатныя, а мянты. Там сядзеў Казулін і г.д. Наогул там вельмі нядрэнна у параўнаньні зь іншымі месцамі. Але ўсё залежыць ад статусу. Камусьці там і дрэнна, а камусьці і ў самым дрэнным месцы лепш за ўсіх. Гэта як ўладкуесься.

На тэрыторыі вядзецца рамонт і новае будаўніцтва. Дык што вонкава вельмі нічога (калі гэтак можна сказаць). Акуратненька (маю на ўвазе ўнутраную тэрыторыю).

**Картка купляецца з грошай на асабовым рахунку. Піша заяву, і грошы сьпісваюць. Належыць тэлефанаваць праз 10 дзён. АЛЕ ўсё, што належыць, не азначае, што гэтымі выгодамі ён скарыстаецца. Усё залежыць ад статусу і ўзаемаадносін з атраднікам. Усяго 7 атрадаў, аб'яднаных у 3 сэктары. Каб патэлефанаваць, трэба пісаць заяву, падпісваць у атрадніка. А потым чакаць, калі атраднік павядзе тэлефанаваць. Таму кожныя 10 дзён не атрымліваецца. А наогул можна паразмаўляць хвілін 5-10 без праблем. Натуральна, усе размовы праслухоўваюцца і запісваюцца. Калі ў вас вялікі тэрмін, ня раю зьвязвацца з сотавымі тэлефонамі. Так усіх там разводзіць: "На, патэлефануй". А гэта сур'ёзнае парушэньне. І тут жа мянты, і тут жа ШІЗА (можна аж да 6 месяцаў патрапіць. І ані перадачаў, ані спатканьняў, ані тэлефанаваньняў). Дык што так і перадайце, што правакацыяў там вельмі багата.**

Цяпер пра мэд. бандэроль. Яна ў агульная колькасьць бандэроляў не ідзе. Да 2 кг. Вы купляеце, што хочаце даслаць. Пішаце яму сьпіс з найменьнем і колькасьцю. Ён падпісвае гэты сьпіс у начальніка ПК і піша вам, што яму ўсё дазволілі. Толькі пасьля гэтага вы дасылаеце мэд. бандэроль. З упакоўкай зьверху вялікімі літарамі: МЭДЫЧНАЯ бандэроль. Натуральна, усярэдзіне заяву: прашу прыняць для... і самі мэдыкамэнты.

Калі ён там не даўно і ўжо прайшоў карантын, як я разумею, то яму прапануюць спатканьне на выбар: кароткатэрміновае (КС) або доўгатэрміновае (ДС).

**КС доўжыцца да 4 гадзін на меркаваньне адміністрацыі. Адначасова, калі яму належыць перадача, то можна і перадачу перадаць. Вы прыяжджаеце. Ідзяце ў пакой чаканьня. Паднімаеце слухаўку тэлефо-**



Жылы пакой у памяшканьні карантыну

**ну і кажаце, што такія-то прыехалі да такога-то на спатканьне. Пашпарты абавязкова + заяву. Усе ўзоры заяў вывешаныя ў пакоі чаканьня. Тамсама ёсьць цёплая прыбіральня. На КС лепш прыяжджаць загадзя, бо чарга агульная. КС пачынаюцца з 9.00, але афармленьне дакумэнтаў распачынаецца а 8.00. Сваякі прыяжджаюць раней і чарга ўжо ёсьць к 8.00. Пасьля таго, як вы патэлефанавалі і сказалі, што прыехалі, адміністрацыя распачынае афармленьне дакумэнтаў. Каб справа была хутчэйшая, ён павінен загадзя напісаць заяву і падпісаць у атрадніка, каб ня бегаць і шукаць усіх, калі вы ўжо чакаеце.**

Адміністрацыя бярэ ягоную заяву і тэлефануе вам назад у пакой чаканьня, кажа: «Такія-то прынясіце пашпарты ў пад'езд №...». Вы несяце туды пашпарты і вяртаецеся ў пакой чаканьня. Адміністрацыя далей афармляе паперы і, як толькі ўсё гатова, тэлефануе ў пакой чаканьня і запрашае вас прайсьці (туды ж, куды вы аддавалі пашпарт). Вы заходзіце, здаяце тэлефоны. Праходзіце на другі паверх. Калі зь перадачай, то тамсама на другім паверсе яе паказваеце, узважваюць. Яе прымаюць. Вы праходзіце далей у пакой КС. Там за шклом (бяз кратаў) па тэлефоне ад 2 да 4 гадзін (залежыць, як пашанцуе) маеце зносіны.


Уваход у мэдчастку

Цяпер пра ДС. Працэдура афармленьня дакумэнтаў такая самая, як і на КС. Адзінае — прыяжджаць гэтак рана ня трэба. На ДС (заходзьце, як на КС, толькі на 1-ы паверх) у гасьцініцы 5 пакояў на 7 атрадаў. Г.зн. патрапіць туды складана, тым больш на 3 сутак. Калі спатканьне 3 сутак, то яно заўсёды пачынаецца ў суботу, заканчваецца раніцай у аўторак. У панядзелак выходны — ніхто не заходзіць, не выходзіць. Колькасьць сутак на ДС вызначаецца атраднікам і яшчэ ад каго можа залежаць (дакладна я ня ведаю) за асаблівыя або іншыя заслугі перад Бацькаўшчынай / перавыхаваньне / станаўленьне на перавыхаваньне (гэта там так афармляецца) і г.д. Што канкрэтна трэба зрабіць — залежыць. Хтосьці матэрыяльную дапамогу сэктару або атраду, хтосьці яшчэ як. Глыбока я ня ведаю. Гэта ён вам павінен сказаць, што трэба. Паводле КВК належыць пэўная колькасьць КС і ДС. АЛЕ!!! Калі няма заслуг, то знойдуць мільён прычын, чаму вы гэтага не атрымаеце. Колькасьць кг на вынас вызначаецца тым самым правілам. (Як і ўсё астатняе). На вынас тыя самыя прадукты, што і на перадачу. Нічога салёнага-мочанага і хатняга нельга.

Дык вось, усяго 5 пакояў. Сваякі пачынаюць выходзіць гадзіне а 9-й. Пакуль яны ня выйдуць, вас запускаць не пачнуць. Дык што можаце спакойна прыяжджаць к 9.00. Вы заходзіце на ДС. Усе вашы рэчы падлягаюць надгляду. УСЕ! Нельга для яго дэзадарант. Нельга з сабой нажы. Астатняе — калі ласка. Прайшлі дагляд, ідзяце ў пакой, які замацаваны за вашым атрадам. Разьмяшчаецеся і чакаеце, пакуль прывядуць вашых сваякоў. Добра, калі ўсё хутка, і пасьпяваюць прывесьці да 13.00. Абед 13-14.00.


Сталоўка

**Аб умовах пражываньня ў гасьцініцы. На 5 пакояў 2 санвузлы — мужчынскі і жаночы. Санвузлы ўключаюць туалет і душ (паддон зь фіранкай). Гарачая вада кругласутачна. На калідоры стаіць пыласос агульнага карыстаньня. У кожным пакоі (абсталяваныя па-рознаму, бо кожны атрад сам адказвае за мэбліроўку) ёсьць маленькі падвесны тэлевізар «Гарызонт» або «Віцязь» (ня памятаю) з пультам. Яшчэ ў кожным пакоі ёсьць электрычны імбрык. Раю браць сродак ад шумавіньня, бо імбрыкі ў жахлівым стане.**

На кухні ёсьць лядоўня. Кожнаму пакою па паліцы (на выбар). Маразілка (3 скрыні) — сумеснага карыстаньня. Яшчэ стаяць 5 электрычных плітак. Электраэнэргія і на кухні і ў пакоях кругласутачна. Дзьве ракавіны. Звычайна ранейшыя сваякі пакідаюць чысьцільныя і мыйныя сродкі, але лепш свае. Рондалі, патэльні, посуд, шклянкі, прыборы (акрамя нажоў) ёсьць. Хто ня можа ці ня хоча прывезьці свае — карыстаюцца. Нож кухонны ў колькасьці 1 шт. на кожны пакой. Нармальны востры нож, толькі нос сточаны і закруглены. Можна прасіць баландэра (мэтрдатэль, ён жа абслуга гасьцініцы), каб падтачыў.

Выдаюць пасьцельную бялізну. Вядома ж, спаць на ёй не захочацца. Але, калі ў каго няма магчымасьці везьці сваё, то сёе-тое ёсьць. Можна прасіць дадатковыя коўдры і падушкі.

Кошт гасьцініцы. Я за 3 сутак за дваіх заплаціла каля 20 000. Але неяк усе плацяць па-рознаму. Плаціце адразу. Калі на 3 сутак, то ў суботу бухгальтэрыя не працуе і грошы прымаюць на 2-м паверсе, дзе вы здаяце грошы і каштоўныя рэчы. (Грубым парушэньнем лічыцца праносіць на ДС грошы (Нават 10 руб !!!). Таму ўсе грошы і каштоўныя рэчы здаюцца на захоўваньне, як і тэлефоны). А калі не ў суботу, то неяк у бухгальтэрыю трэба ісьці, я ня ведаю.

З прадуктаў на ДС: можна ўсё: салёнае, у шкле, у зялезе, малочнае, яйкі і г.д.

Ва ўсіх пакоях шклопакеты. Ёсьць маленькі дворык. Хадзіць туды можна без абмежаваньня па колькасьці і часе. Вы цалкам належыце сабе. Няма пад'ёмаў і адбояў. Адзінае — ёсьць праверкі. Прыходзяць (хто належыць па чарзе) разы 4-5, вашы сваякі выходзяць на калідор, іх пералічваюць. Пытаюцца, ці ёсьць пытаньні. І ўсё.

Наогул ціха, спакойна. Для блізкіх выдатны адпачынак.

Пэрсанал, трэба адзначыць, ветлівы і прыязны. У мяне ніколі пытаньняў не ўзьнікала. Трэба паводзіцца спакойна, паважліва і не спрачацца. Там ёсьць правілы, і іх трэба выконваць.

*Паводле* ***http://vkapkane.net/forum/theme-vitebskiy-rayon-p-vitbaik-3***

# За пашкоджаньне помніку архітэктуры XII стагодзьдзя ў Полацку няма каго прыцягнуць да адказнасьці

**Праектна-каштарысная дакумэнтацыя на правядзеньне газаправоду ў завулку Юбілейным у Полацку распрацоўвалася яшчэ Полацкім гарвыканкамам, які ў 2013 годзе быў рэарганізаваны. Як вынік, «прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасьці асоб, якія падпісалі акт выбару зямельнага ўчастку, не ўяўляецца магчымым».**



Помнік археалёгіі — падмурак адной з пабудоў Барысаглебскага манастыра XII стагодзьдзя быў пашкоджаны падчас пракладкі газаправоду ў завулку Юбілейным. Гэты раён знаходзіцца практычна ў самым цэнтры старажытнага гораду і ўваходзіць у склад ахоўнай зоны гісторыка-археалягічнага музэю-запаведніку Полацку.

Паведаміў пра здарэньне полацкі краязнаўца Аляксей Бухавецкі.

Міністэрства культуры 6 лютага накіравала прадпісаньне ў Полацкі райвыканкам і Віцебскі аблвыканкам з патрабаваньнем прыпыніць правядзеньне земляных работ, забясьпечыць выкананьне Палажэньня аб ахове археалягічных аб'ектаў пры правядзеньне земляных і будаўнічых работ, зацьверджанага Саветам Міністраў.

Галоўнае ж патрабаваньне — атрымаць ад Міністэрства культуры дазвол на правядзеньне работ. Чаго зроблена не было.

Як патлумачыла начальнік аддзелу па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Натальля Хвір, усё што здарылася ў Полацку — прыклад або няведаньня, або ігнараваньня закону.

**Як гаворыцца ў прадпісаньні Мінкультуры, мясцовым уладам варта было разам з Нацыянальнай акадэміяй навук «забясьпечыць ажыцьцяўленьне мер па ахове выяўленых археалягічных аб'ектаў». Прасьцей кажучы – павінен быў прысутнічаць археоляг з Інстытуту гісторыі НАН. У выпадку, калі былі б знойдзены падмуркі старажытнага будынку (што і адбылося), ён меў бы права прыпыніць работы.**

У адказе Полацкага райвыканкаму сказана, што праектна-каштарысная дакумэнтацыя распрацоўвалася яшчэ ў 2012 годзе і тады «ў склад камісіі прадстаўнікі Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музэю-запаведніку, зь невядомых прычын, уключаныя не былі».

Райвыканкам паведаміў, што работы прыпыненыя, а ў склад камісіі ўключаны прадстаўнік музэю-запаведніку.

Аднак, як заўважыла Натальля Хвір, у Мінкультуры патрабавалі ня гэта. Тут так і не атрымалі ад полацкіх уладаў адказу на галоўнае пытаньне: чаму не было ад іх запыту на дазвол міністэрства і ніхто ня выклікаў археолягаў, безь якіх наогул ніякія дзеяньні на тэрыторыі, якая знаходзіцца пад аховай дзяржавы, праводзіцца ня могуць.

Усе гэтыя грубыя парушэньні, як гаворыцца ў прадпісаньні Міністэрства культуры, павінны пацягнуць адміністрацыйную адказнасьць вінаватых асоб.



У райвыканкаме заявілі, што «у сувязі з рэарганізацыяй ў 2013 годзе Полацкага гарвыканкаму прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасьці асоб, якія падпісалі акт выбару зямельнага ўчастку, не ўяўляецца магчымым».

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.